# БЮЛЕТЭНЬ

Беларускага рэспубліканскага камітэту прафэсыянальнага саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў С. С. С. Р.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

МЕНСК, ПЛЯЦ ВОЛІ, — ДОМ ПРАЦЫ —

ТЭЛЕФОНЫ.
Старшыні ЦП № 4-08
Арган. сэктар № 4-08

№ 15 — 25-га чэрвеня 1932 года — № 15

ЗЬМЕСТ:

# ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму рэспубліканскага К-ту саюза РЖС „аб росьце саюзу“**

*Ад 10/V-32 г.*

1. Канстантаваць выключна марудны тэмп росту членаў саюзу, а менавіта: з агульнага ліку працуючых рабочых, спэцыялістых, служачых і студэнтаў 39.416 чал.-ахоплена саюзным членствам 22.182 чал. (56,3 %) з іх: штатных рабочых 13949 чал. (68,43 %), сэзоных 584 чал. (20,7 %), будаўнікоў 1140 чал. (25 %) і служачых і спэцыялістаў 2971 чал. (88 %).

2. Такое становішча з ростам саюзу зьяўляецца вынікам зусім нездавальняючай увагі і слабай масавай работы саюза вакол гэтай задачы.

Выходзячы з вышэйпаказанага Прэзыдыум Рэсп. К--ту пастанаўляе:

1. Прапанаваць рабачкомам, прафкомам, цэхкомам на сваіх паседжаньнях намеціць канкрэтныя мерапрыемствы у сваім с/г, установе, цэху, фэрме па 100 % ахопу усіх працуючых членствам, якія маюць права быць членамі саюза.

2. Завесьці сталы вучот членаў саюзу у с/г, установе, цэху, фэрме, вучастку вылучыў адказных членаў камітэтаў за вярбоўку і вучот.

3. Правесьці сходы і гутаркі з працуючымі у саўгасах і установах ня членамі саюзу асаблівую увагу у гэтым надаючы рэалізацыі пастановы V Пленуму Усе ЦСПС аб перавагах членаў саюзу

4. Правесьці інструкцыйную нараду прафгрупоргаў, цэхавых і вучастковых камітэтаў па пытаньні—„Росту саюзу і масавая работа у гэтай галіне“.

5. Прапанаваць рабачкомам асаблівую увагу зьвярнуць на арганізацыю масавой працы па вярбоўцы у саюз рабочых будаўнікоў.

6. Падкрэсьліваючы, што у залежнасьці ад разгортваньня Марксыцка—Ленінскага выхаваньня і вучобы рабочых, зале-

жыць рост саюзу, а пагэтаму зварачваем увагу на перанясеньне культмасавай работы у цэх, брыгаду, фэрму, вучастак сталоўку, інтарнат, ставячы баявой задачай культурнае і палітычнае выхаваньне, добрасумленыя адносіны рабочых да сацыялістычнай вытворчасьці.

7. Абавязаць рабачкомы шырока разгарнуць прапрацоўку пастаноў 9 га Зьезду Прафсаюзаў СССР сярод працуючых, абавязкова увязаў масавую работу з ростам саюзу.

8. За зусім няуважлівыя адносіны да вучоту членаў саюзу, недапушчальна—нізкі ахоп членствам, старшыням рабачкомаў саўгасаў (Насовічы—зусім няведаюць ліку членаў саюзу, Копысь —ахоп членствам 19 %, Цыцэрына 24 % і Чырвона-Берэжскі тэхнікум 36 %) абавясьціць суровую вымову.

9. Даручыць Арганізацыйнаму сэктару і групе праверкі выкананьня праз месяц праверыць ступень выкананьня гэтай пастановы.

---

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Беларускага Рэспубліканскага Камітэту саюзу РЖС аб выкананьні фінпляну камітэту за 2 месяцы 2 кварталу 1932 г.**

(*Красавік—Май*)

*Ад 10 Чэрвеня 1932 г.*

1) Прызнаць зусім нездавальняючае і катастрафічнае становішча з выкананьнем фінпляну па членскіх узносах (за 1-шы квартал выканана 45 % і за 2 мес. 2 кварт. 49 %)

У выніку кепскага выкананьня фінпляну—пастаўлены пад пагрозу зрыву цэлы шэраг жыцьцёвых мерапрыемств Саюзу (падрыхтоўка кадраў, будаўніцтва клюбаў, вясновая пасеўная, курортная і інш. камп.)

2) Прэзыдыум адзначае, што побач з рабачкомамі, як Леніна (Дурынічы), Наваселкі (Веткаўскі р-н) М. Сьлепянка і інш. якімі добра выконваецца фінплян як у 1-м так і у 2 кварт., маюцца рабачкомы як Залог Пяцігодкі, Лемніца Скрыншчына, Замоша якія апартуністычна цягнуцца у хвасьце на працягу гэтага году.

3) Асобныя рабачкомы як Пракопаўка, В. Фаніпаль, Дзяржконзавод замест павышэньня выкананьня фінпляну, зьнізілі апошні у 2-м квартале, чым недаацэнілі выкананьня профбюджэту.

4) Адзначыць зусім слабую работу Рэўкамісій па кантролю выкананьня рабачкомамі фінпляну, маючым нізкае выкананьне пляну.

5) Прэзыдыум лічыць, што поўнае выкананьне фінпляну залежыць ад поўнага ахопу членствам працуючых, адзначыўшы, што па становішчы на 1/IV г. г. мы маем зусім нездавальняючы ахоп асабіста часовых і сэзоных рабочых (штатных рабочых ахоплена 68,4% і сэзоных-25%), а таксама ад сваечасовай выплаты і ліквідацыі запазычанасьці па зарплаце.

Выходзячы з вышэйпаказанага для бязпрэчнага выкананьня фінпляну 2-га кварталу і давыкананьня 1-га кварталу Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1) Патрабаваць ад старшынь рабачкомаў не паслабляць увагі на выкананьне фінпляну, маючы на увазе, што гэта пытаньне павінна займаць адно з цэнтральных мейсц у рабоце рабочага Камітэту.

2. Прапанаваць рабачкомам на працягу дэкады прапрацаваць фінстановішча рабачкому на пасяджэньні апошняга і агульных сходах рабочых з абгаварэньнем на апошніх злосных неплацельшчыкаў членскіх узносаў, даручая работу член. узносаў лепшым рабочым—ударнікам, арганізуя сваечасовую уплату узносаў, вывешвая сьпісы неплацельшчыкаў і інш.

3) Прапанаваць рабачкомам зараз-жа заняцца ліквідацыяй запазычанасьці па членскім узносам з боку членаў саюзу і сваечасоваму пераводу апошніх ЦК саюзу.

Прэзыдыум асабліва прапануе старшыням разбуйняемых рабачкомаў аб 100 % ліквідацыі запазычанасьці па членскіх узносах, % % налічэньнях ад гаспадарак, а таксама пераводу ЦК—членскіх узносаў і астаткаў на 1/I-г. г., згодна ранейшага нашага указаньня.

4. Абавязаць старшынь рабачкомаў на працягу 5 дзён вылучыць скарбнікаў рабачкомаў і зборшчыкаў членскіх узносаў пры Цэхкомах, калі да гэтага часу ня вылучаны.

5. Канстантуючы зусім нездавальняючы ахоп працуючых членствам, асабліва сэз. і часовых рабочых, Прэзыдыум прапануе рабачкомам на працягу Чэрвеня і Ліпеня м-цаў правесьці растлумачальную і культасьветную работу па 100% уцягненьню у саюз працуючых, маючых права быць членамі саюзу (у адносіне ахопу кіруйцеся пастановай Прэзыдыуму ад 10/V-г. г.

6) Даручыць Дырэкцыі Трэстаў прыняць усе захады па выкананьні пастановы Прэзыдыуму ад 10/V-г. г. аб ліквідацыі запазычнасьці па зарплаце рабочым саўгасаў і % % налічэньням рабачкомам.

7) Даручыць Рэўкамісіям рабачкомаў узяць пад штодзёны кантроль выкананьне фінпляну рабачкомамі і дапамогу апошнім у выкананьні пляну.

8) Прэзыдыум напамінае работнікам К-та знаходзячымся у камандыроўках узяць пад асабісты кантроль і дапамогу у выкананьні фінпляну рабачкомамі; адначасова не пазьней 12/VI паслаць 2 х інструктароў па ліквідацыі прарываў па членскіх узносах у больш атстаючыя рабачкомы.

9. Устанавіць як правіла выяезжаючым работнікам К-та незалежна ад камандыроўкі займацца грашовымі пытаньнямі і пры справаздачы у К-т прадстаўляць пісьмовую запіску аб праробленай рабоце.

10. Лічыць неабходным у канцы чэрвеня правесьці Менскую кустаўую нараду з выклікамі з рабачкомаў адстаючых у выкананьні фінпляну—па грашоваму пытаньню старшынь рабачкомаў, сборшчыкаў скарбнікаў і ст. Рэўкамісій. Тэрмін і парадак правядзеньня нарады даручыць распрацаваць фінсэктару.

11. У мэтах дапамогі рабачкомам па грашоваму пытаньню даручыць фінсэктару К-та падабраць інструкцыйныя матар'ялы, зьмясьціўшы апошнія у асобным бюлетэні.—

---

Узгоднена з Фінсэктарам ЦСПСБ
Нам. Заг. Фінсэктара—Гарохаў.

## КАШТАРЫСНАЯ.

### Дысцыпліна і парадак расходваньня грошай.

§ 1. Кожны рабачком, МК, Прафком і Прафупаўнаважаны павінен мець каштарыс, зацьверджаны Рэспубліканскім Камітэтам, якім апошнія кіруюцца пры расходваньні грошай.

§ 2. Пры расходваньні грошай па: утрыманьні штату, арганізацыйным і гаспадарчым выдаткам рабачкомы ўкладваюцца ў нормы зацьверджанага каштарысу і перавыдаткоўваць звыш каштарысу катэгарычна забараняецца.

§ 3. Па культ. асьветнай рабоце:

а) **Ўсеабуч.** Грошы расходуюцца на палітэхнізацыю школ і палепшаньне сацбыт. становішча вучняў (гарачых сьнеданьняў і абедаў, вопратку, абутак і г. д.). Калі да рабачкому прымацована школа, то сума вызначаная па каштарысу перадаецца школе і ў супраціўным выпадку грошы перадаюцца мясцоваму Райпрофсавету для перадачы праз органы Асьветы на школьныя патрэбы.

б) **Лікбез.** Грошы расходуюцца выключна на зьнішчэньне няпісьменнасьці і малапісьменнасьці ў сваём калектыве, шляхам дагавора з Райано, які павінен забясьпечыць лікпункт настаўнікам, пісьмовымі і вучэбнымі прыладамі і г. д. Угэтым выпадку сума грошай зацьверджаная каштарысам перадаецца Райано.

Калі лікпункт Райано не забясьпечвае—то рабачком самастойна арганізуе ліквідацыю няпісьменасьці і грошы нікому не перадае, а выдаткоўвае самастойна.

Гэтыя грошы ў агульным парадку каму бы то ні было непадлягаюць перадачы.

в) **Піанэррух.** З агульнай сумы, зацьверджанай па каштарысу расходуецца прыблізна 40% на аздаравіцельную кампанію (выход ў лягеры) і гэтая сума перадаецца арганізацыям, арганізуючым лягеры, а 60% застаецца для мясцовых піанэратрадаў і апошнім перадаюцца грошы (на культасьветную работу і інш.).

г) **Дзіцячыя сады,ясьлі і пляцоўкі.** Грошы расходуюцца згодна пляну Беларускага Камітэта і выдаткоўваць больш вызначанай сумы каштарысам—забараняецца.

д) **Вайсковая прапаганда і стралк. спорт.** Грошы расходуюцца па прадстаўленаму каштарысу мясцовай ячэйкай АСО на ўнядрэньне вайсковых ведаў сярод рабочых данага калектыву.

Гэтыя сродкі агульнай перадачы каму бы та ні было не падлягаюць.

е) Па астатнім артыкулам культасьветнай работы—грошы расходуюцца выключна на культасьветную работу сярод рабочых данага калектыву і па нормах, зацьверджаным каштарысам.

§ 4. **Кадры.** Грошы расходуюцца згодна пляну Рэспубліканскага Камітэта, па падрыхтоўцы кадраў.

§ 5 **рг. палітработа ў вёсцы.** Грошы расходуюцца па паездцы ў вёску па правядзеньні гаспадарчых і палітычных кампаній.

**§—6. Мерапрыемствы па палепшаньні соц. быту членаў саюза.**

а) **Фінансаваньне прыгараднай гаспадаркі:** Грошы перадаюцца саўгасу для палепшаньня грамадзкага харчаваньня сярод рабочых данага калектыву і па норме, зацьверджанага каштарысу. Выдаткоўваць грошы ўзваротна катэгарычна забараняецца.

б) **На сан. кур. і дапамогу членам саюза.** Грошы выдаткоўваюцца ў разьмерах прадугледжаным каштарысам і выдаткоўваць звыш каштарыса катэгарычна забараняецца.

**§ 7. Фінўзаемаадносіны з райпрофсаветам.**

а) Ніякія сумы, не прадугледжаныя каштарысам перадачы РПС не падлягаюць і Беларускім Камітэтам забараняецца.

б) Калі па каштарысу патрабуемая сума РПС маецца, але правадзімыя мерапрыемствы РПС не абслугоўваюць рабочых данага саўгасу—то грошы ні ў якім разе не выдаткоўваюцца.

в) Калі ў рабачкоме будзе спрэчнае пытаньне з РПС, аб выдачы грошай, то апошнія рабачкомам без згоды Рэспубліканскага Камітэту не выдаюцца.

**Фінсектар Бел. Рэсп,К-ат саюза Р.Ж.С.**

---

# ПРАВІЛЫ.

## Вядзеньня справаздачнасьці у рабачкомах.

### 1. Агульныя паказаньні.

1. Кожны рабачком абавязан весьці вучот даручаным яму профсаюзным сродкам.

2. За правідловае становішча вучота і сваечасовае вядзеньне, адказвае ў першую чаргу старшыня рабачкома.

3. Адсутнасьць вучоту /на грунце агульна—устаноўленых законаў ўраду/ караецца судом.

4. Пры абраньні новага складу рабачкому, ці старшыні яго, ўсе грашовыя справы перадаюцца актам, складзеным рэўкамісіяй, альбо часовай камісіяй і адбітак акту перасылаецца Рэспубліканскаму Камітэту.

5 Рабачком павінен весьці вучот па выпрацованай форме фінведамасьцяў Усе ЦСПС. У аднясеньні расходаў на той ці іншы артыкул трэба карыстацца інструкцыяй УсеЦСПС.

## II. Аб парадку афармленьня дакумэнтаў.

6. На кожны прыход ці расход грошай выпісваецца касавы ордэр.

7. Да кожнага ордэру павінен быць прыкладзены апраўдальны дакумэнт. Прыходныя дакумэнты ў практыцы рабачкому могуць быць: даведкі ад кантор, аб выданых рабачкому процэнтных налічэньнях па калдагавору, ведамасьці па розных зборах ад членаў саюзу, акты па выручках ад культмасавай работы і г. д.
Расходныя дакумэнты—расьпіскі, рахункі, квіты, ведамасьці, накладныя, фактуры, і інш.

8. Без дакумэнтаў ці спасылкі на дакумэнт ордэр не сапраўдны.

## III. Аб парадку вядзеньня фінведамасьці.

9. Сумы з вордэроў разносяцца па фінведамасьці. На вярху кожнай калёнкі у фінведамасьці ўказваецца тое чысло месяца, якое ўказана ў ордэры.

10. Сумы звароту за месяц паказваюцца у графе 1-й "паступіла ці расходавана за справаздачны месяц", пасьля гэтага бяруць сумы /не астаткі, а ўвесь зварот/ з апошняй графы фінведамасьці мінулага месяцу і пераносяць у фінведамасьць за гэты месяц у графу 2-ю, пад назвай "агульная сума прыходу ці расходу на 1-е число справаздачнага месяцу". Першая графа і другая складаюцца і атрыманыя сумы паказваюць у 3-ю графу "агульная сума прыходу ці расходу на 1-е чысло наступнага месяцу".

## V Аб перасылцы членскіх узносаў ЦК н/саюзу.

11. Сабраныя членскія ўзносы ад членаў саюзу па марках здаюцца ў райбанкі не радзей 2-х раз ў месяц /12 і 27-га чысла /на рахунак №--3006 ЦК н/саюзу і адначасова адтрымоўваюць ад банка маркі на ўнесеную суму.

## IV. Аб інвентары і бібліатэцы.

12. Для вучоту інвентару павінна быць інвентарная кніга, куды запісваюцца набытыя рэчы рабачкомам.

13. Бібліатэка ўлічваецца па каталёгу.

**Фінсэктар Бел. Рэсп. К-та Саюза РЖС.**

# АБ АДЗІНАЙ МАРАЧНАЙ СЫСТЭМЕ

## Мэта ўвядзеньня марачнай сыстэмы.

На грунце пастановы VI-га Пленуму Ўсе ЦСПС ўводзіцца марачная сыстэма па ўзыманьні членскіх ўзносаў ва ўсіх прафарганізацыях СССР. Гэта сыстэма зьяўляецца вялікім станоўчым выпраўленьнем у прафэсыйным бюджэце—бо яна ўносіць чоткасьць у парадку ўзыманьня, вучоту і пераводу членскіх ўзносаў ЦК н/саюзу—для своечасовага напраўленьня апошніх на арганізаванае палепшаньне культурна бытавога становішча працоўных саўгасаў на стварэньне неабходнай матар'яльнай базы, забясьпечваючай правядзеньне задач, пастаўленых партыяй і рабочай клясай перад нашым саюзам.

Ажыцьцяўленьне вышэйпаказаных задач залежыць ад актыўнага ўдзелу ўсіх членаў прафсаюзу пры арганізаваным кіраўніцтве прафактыву і барацьбы за выкананьне фінансавага пляну прафсаюзу.

Для выкананьня фінансавага пляну неабходна наступнае

1. Поўная ліквідацыя запазычанасьці ў сучасны момант і своечасовая ўплата членскіх ўзносаў членамі саюзу ў далейшым;
2. своечасовае атрыманьне налічэньняў ад саўгасаў па колдагаварам і поўная ліквідацыя запазычаннасьці;
3. ліквідацыя запазычанасьці рабачкомамі па пералічэньні сродак у ЦК н/саюзу.
4. Кожнамесячнае і акуратнае пералічэньне у ЦК зьбіраемых членскіх ўзносаў;
5. Кожнамесячны кантроль і праверка рабачкомамі выкананьня фінпляну апошняга на паседжаньні рабачкому.
6. Бязьлітасная барацьба рэвізійных камісій з растратамі грамадзкіх сродак, а таксама з незаконным афармленьнем ўзіманьня членскіх ўзноваў.

Выкананьне вышэйпаказанага складае дастатковую базу для забясьпячэньня выкананьня фінпляну нашага саюзу.

# ІНСТРУКЦЫЯ

## Па сыстэме збора, пералічэньня і кантроля членскіх ўзносаў.

### 1. Агульная частка.

1. Марачная сыстэма ўводзіцца з 1-га сакавіка 1932 г.
2. З 1-га сакавіка г. г. прымаць членскія ўзносы без марак ці не наклейваць на прынятую суму ўзносаў профмарку

ў прафбілет члену саюзу—кваліфікуецца як растрата саюзных сродкаў.

3. Марка выпушчана УсеЦСПС і зьяўляецца адзінай праф-маркай для ўсіх саюзаў.

4. Марка склеаецца з 2-х частак: карэньчык маркі які клеіцца ў вучотную картку члена саюзу і сама прафмарка, якая клеіцца ў членскіх білетах.

5. Марачная сыстэма патрабуе мець у абавязковым парадку на кожнага члена саюза—вучотную картку.

6. На кожныя 25-30 членаў саюзу патрэбна мець зборшчыка членскіх ўзносаў.

7. Марка вучытваецца па номінальнай іх каштоўнасьці і скарбнік рабачкому ці зборшчык нясуць за іх адказнасьць як за грошы.

## II. Парадак атрыманьня марак для ўзыманьня ўзносаў.

1. Рабачком для ўзыманьня членскіх ўзносаў атрымлівае ад Рэспубліканскага Камітэту месячны аванс марак новага абразцу адзін раз.

> ЎВАГА: Месячны аванс складае 2% месячнага фонду зарплты членаў саюзу данага рабачкома.

2. Атрыманы аванс марак, згодна паведамленьня Рэспубліканскага Камітэта—рабачком павінен запрыбыткаваць атрыманую суму па фінведамасьці (касавай кнізе) пад назвай „профмарка 1932 г.“, надпісаўшы гэты радок зьнізу раздзелу бягучага рахунку. У расход не выводзіцца, так як атрыманы аванс марак застаецца ў рабачкоме на працягу году.

3. У далейшым рабачком марак у Рэспубліканскім Камітэце не атрымоўвае, а ўносячы сабраныя членскія ўзносы ў Райбанк, ці Ашчадкасу ад апошніх атрымлівае маркі на тую суму, якая ўнесена грашыма (глядзі раздзел V § 3).

4. Калі ў рабачкоме адсутнічаюць патрэбныя купюры марак (разьмеры каштоўнасьці) то апошнім абменьваюцца ў райбанке на патрэбныя.

## III. Разьмер ўзыманьня членскіх і ўступных ўзносаў.

### А. ЧЛЕН. ЎЗНОСАЎ.

1. Маркі выпушчаны ў 17 купюрах і кожая купюра мае асобную каштоўнасьць.

2. На месячны ўзнос клеіцца ў членскі білет адна марка за выключэньнем выпадкаў калі рабочны заробак члена саю-

за дасягае звыш 300 рублёў і ў даным выпадку на 300 рублёў клеіцца марка на 6 руб. і за кожныя поўныя і няпоўныя 50 р. звыш 300 руб. клеіцца марка каштоўнасьцю 1 руб. Напрыклад: заробак Петрова 350 р.—клеіцца марка 6 р.+1р.=7р., заробак Іванова 375 руб.—клеіцца марка 6р.+2р.=8р. і г, д.

3. Членскія ўзносы ўзымаюцца па выпрацованай наступнай шкале:

## ШКАЛА

| Разрад | Разьмер месячнага заробку | Каштоўнасьць марак |
|---|---|---|
| 1 | Да 20 р. . . . . | 30 к. |
| 2 | Ад 21 да 30 р. . . . . | 50 к. |
| 3 | „ 31 „ 40 р. . . . . | 70 к. |
| 4 | „ 41 „ 50 р. . . . . | 90 к. |
| 5 | „ 51 „ 60 р. . . . . | 1 р. 10 к. |
| 6 | „ 61 „ 70 р. . . . . | 1 р. 30 к. |
| 7 | „ 71 „ 80 р. . . . . | 1 р. 50 к. |
| 8 | „ 81 „ 90 р. . . . . | 1 р. 70 к. |
| 9 | „ 91 „ 100 р. . . . . | 2 р. 00 к. |
| 10 | „ 101 „ 120 р. . . . . | 2 р. 30 к. |
| 11 | „ 121 „ 140 р. . . . . | 2 р. 70 к. |
| 12 | „ 141 „ 160 р. . . . . | 3 р. 00 к. |
| 13 | „ 161 „ 190 р. . . . . | 3 р. 60 к. |
| 14 | „ 191 „ 220 р. . . . . | 4 р. 20 к. |
| 15 | „ 221 „ 260 р. . . . . | 5 р. 00 к. |
| 16 | „ 261 „ 300 р. . . . . | 6 р. 00 к. |
| 17 | Дадатковая . . . . . . | 1 р. 00 к. |

4. Членскія ўзносы ўзымаюцца па вышэйпаказанай шкале з фактычна атрыманага заробку, а не з тарыфнай стаўкі.

5. У выпадку часовай непрацаздольнасьці члена саюзу апошні за час непрацаздольнасьці ад уплаты членскіх ўзносаў аслабаняецца.

Пры хваробе члена саюзу поўны месяц—у білеце і вучотнай картцы рабачком робіць адметку аб хваробе „хварэў", за мест маркі ставіцца пячатка рабачкому.

і 6. Члены саюзу, працуючыя ў некалькіх арганізацыях па сумяшчэньню—членскі ўзнос плоцяць па мейсцу атрыманьня зарплаты.

УВАГА: Рабачком атрыманыя членскія ўзносы з заробку па сумяшчэньні наклейвае марку ў членскі білет на вольнае мейсца, а карэньчык на вучотнай картцы з загалоўкам „сумясьціцель“ якая хаваецца ў асобнай папцы.

7. Разьмер членскіх ўзносаў для студэнтаў—членаў саюзу

а) Члены саюзу, атрымліваючыя стыпендыю ў разьмеры да 30 руб. ў месяц—уплачваюць членскі ўзнос 30 кап. ў месяц (першы разряд па марачнай шкале).

б) Атрымліваючыя стыпэндыю ад 31 да 60 руб. ў месяц плоцяць членскі ўзнос у разьмеры 50 кап. (2-гі разрад па марачнай шкале).

в) Атрымліваючыя стыпэндыю больш 60 руб. плоцяць членскія ўзносы па марачнай шкале ў агульным парадку.

г) Члены саюзу, якія сумяшчаюць сваю вучобу з работай уплачваюць членскі ўзнос з фактычнага заробку па месцу работы на агульных падставах.

д) Студэнты члены саюзу не атрымліваючыя стыпендыю і не маючыя рэгулярнага заробку— прыраўніваюцца ў пытаньні саюзнага членства да становішча чырвонаармейцаў

## Б. ЎСТУПНЫ ЎЗНОС.

Ўступны ўзнос ўзымаецца у рзьмеры месячнага членскага ўзноса па шкале. Напрыклад: заробак Петрова 150 р ў месяц бярэцца ўступны ўзнос 3 р. (12 рарад па марачнай шкале) і г. д.

## IV. Парадак ўзыманьня членскіх ўзносаў.

## А. ШТО ПАВІНЕН РАБІЦЬ СКАРБНІК РАБАЧКОМУ.

1. Месячны леміт марак па ўзыманьні членскіх ўзносаў атрыманы ад Рэсп. К-та хаваецца ў скарбніка рабачкому. У скарбніка таксама знаходзіцца і вучотныя карткі на членаў саюзу, разьбітыя па зборшчыкам.

2. Скарбнік рабачкому арганізуе інстытут сборшчыкаў па ўзыманьні членскіх ўзносаў з такім разьлікам, каб на

кожнага зборшчыка прыходзілася ня больш 25-30 членаў саюзу.

3. Ва ўстаноўленыя дні па збору членскіх ўзносаў скарбнік рабачкому выдае ў падрахунак зборшчкам адпаведную колькасьць марак. (Маркі выдаюцца на суму патрэбную для збора членскіх ўзносаў таго ці іншага зборшчыка) і вучотныя карткі на тых членаў саюза, якія абслугоўваюцца даным зборшчыкам.

Пры выдачы ў падрахунак зборшчыку картак і марак скарбнікам рабачкому вядзецца вучот выданых на кожнага зборшчыка паасобна па наступнай форме:

## ВЕДАМАСЬЦЬ

**Па збору членскіх ўзносаў праз зборшчыкаў рабачкому (назва) за час з.............па.............193.....г.**

| Дата | № зборшчыка. | Прозьвішча зборшчыка | Выдана | | Распіска зборшчыка | Дата | Атрымана | | Грошай | Распіска скарбніка | №№ прыбыт. касав. ордэр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Картак | Марак. | | | Картак | Марак | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | | | | | | | | |

Гэты асабісты рахунак пішэцца ў 2-х экзэмплярах падкапірку, з якіх адзін застаецца ў скарбніка рабачкому, а другі выдаецца на рукі зборшчыку.

Скарбнікам запаўняецца вышэйпаказаны асабісты рахунак першыя 5 калёнак і ў калёнкі 6-й распісваецца зборшчык у атрыманьні картак і марак.

4. Скарбнік рабачкому не пазьней 4-5 дзён пасьля выдачы марак, зборшчыкам—патрабуе ад апошніх справаздачу. Зборшчыкі здаюць скарбніку вучотныя карткі на членаў саюзу, сабраныя членскія ўзносы (грошы) і рэшта марак.

Скарбнік праверыўшы справідловасьць збору і афармленьня картак у прысутнасьці зборшчыкаў запаўняе апо-

шнія калёнкі асабістага рахунка зборшчыка (з №-7-10) і распісваецца ў прыёме картак, грошай і рэшты марак (графа № 11).

УВАГА: 1. Калі пры праверцы справаздачы ў сборшчыка акажэцца недахоп грошай, скарбнік фактычна сабраную суму ўзносаў (згодна карэньчыкаў марак у картках) прыходуе поўнасьцю, а недастачу выдатковым касавым ордэрам запісвае на асабісты рахунак зборшчыка для ўзысканьня.

2. Калі пры праверцы справаздачы ў зборшчыка акажэцца недахоп марак, то скарбнік ўзыскivae са зборшчыка каштоўнасьць нехапаючых марак і грошы за згубленыя маркі пераводзіць Рэспубліканскаму К-ту Менск, на рахунак №-85/101560 у Менаддзяленьне Дзяржбанку, патрабуючы зьмяншэньня лічашчагася за рабачкомам авансу.

3. Як у першым, так і у другім выпадку складаецпа акт у прысутнасьці члена Рэўкамісіі у 2-х экземплярах; з якіх :адзін застецца у рэўкамісіі, а другі служыць апраўдальным дакумантам к касаваму выдатковаму ордэру пры пералічэньні недастачы на зборшчыка (у першым выпадку) і аснаваньнем к памяншэньню леміта (у другім выпадку).

4. Пры складаньні акту ў вышэйпамяненых выпадках у II калёнцы ведамсьці замест распіскі скарбніка робіцца ссылка на акт.

5. Пры атрыманьні членскіх ўзносаў непасрэдна скарбнікам рабачкому (у выключных выпадках) тэрміновая камандыроўка, адпачынак, пераход на другую працу, мабілізацыя і г. д. скарбнік прымае членскія ўзносы па ведамасьці па марках, па наступнай форме:

## ВЕДАМАСЬЦЬ №..........

на прыём індывідуальных членскіх узнсаў з..........
па.......... Рабачкома (назва)..........

| Дата | №№ членск. профбіл. | ПРОЗЬВІШЧА ЧЛ. САЮЗА | Сума | № прыбыткавага касавага ордэра |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

6. Наклейка палумарак і папсаваных марак катэгарычна забараняецца і калі апошнія будуць, то аб гэтым складаедца акт і апошні сумесна з папсаванымі маркамі накіроўваюцца Рэспубліканскаму Камітэту для абмену.

## Б. ШТО ПАВІНЕН РАБІЦЬ ЗБОРШЧЫК РАБАЧКОМУ.

7. Зборшчык павінен ведаць заробак абслугоўваемых ім членаў заюзу і суму належачую членскіх ўзносаў, згодна шкалы.

8. У выпадку, калі ў момант збора членскіх ўзносаў невядомы заробак той ці іншай групы членаў саюзу, то членскі ўзнос бярэцца з той сумы, якую фактычна атрымаў член саюзу ў выглядзе авансу ці сумы заробку данага разраду. Пры наступнай аплаце членскіх ўзносаў (праз месяц) калі ўжо вядома заробак за мінулы месяц—дык членскі ўзнос даўзімаецца згодна шкалы.

9. Пры прыёме членскіх ўзносаў зборшчык прафмарку наклейвае ў членскі білет, а карэньчык маркі ў вучотную картку ў адпаведны месяц.

10. Маркі ў членскім білеце пагашаюцца знакам X, каб ён прайшоў праз усю марку і захапіў частку мейсца ў білеце, на якое марка наклейваецца.

11. На карэньчыку маркі пасьля наклейкі апошняга на вучотную картку—пішыцца час прыёма ўзносу.

12. Наклейка палумарак і папсаваных марак катэгарычна забараняецца.

13. Членскі ўзнос адмечаны на білеце, але не маючый карэнчыка на вучотнай картцы—лічыцца не сапраўдным.

14. Зборшчык 2 разы ў месяц прымае членскія ўзносы недапускаючы запазычнасьці, адначасова сочыць за поўным ахопам членствам ўсіх працуючых ў яго калектыве.

15. Не пазьней 4-5 дзён пасьля збору членскіх ўзносаў зборшчык адлічваецца перад скарбнікам за ўзятыя маркі і карткі, згодна інструкцыі.

## V. Вучот і парадак пераводу членскіх ўзносаў.

1. Атрыманыя членскія ўзносы, згодна ведамасьцям прыходуюцца на аснове касавага ордэра ў касаваю кнігу па артыкулу „членскія ўзносы“.

2. Сабраныя членскія ўзносы рабачкомам зараз-жа і не радзей 2-х раз ў месяц 12 і 27-га чысла здаюцца у райбанк на суб. рахунак ЦК н/саюза №-3006.

У касавай кнізе, пасьля здачы грошай запісваецца па расходу ў артыкулу „членскія ўзносы“.

ЎВАГА: Пры пералічэньні сабраных членскіх ўзносаў безнаяўным разьлікам, г. зн., шляхам пералічэньня сродак з бягучага рахунка рабачкому ў ЦК, у фінведамасьці робяцца 2 запісі: у выдатках па артыкулу „членскія ўзносы“ і ў прыбытку „бягучы рахунак“

3. Пры здачы і пералічэньні грошай--членскіх ўзносаў, рабачком адначасова атрымлівае на ўнесеную ці пераведзеную суму марак у адпаведных каштоўнасьцях у залежнасьці ад патрабаваньня, чым і папаўняецца месячны леміт. У гэткіх выпадках атрыманьня марак па касавай кніге не заносіцца.

4. На аснове дагавора, заключонага Дзяржбанкам з ЎсеЦСПС, ад 7/II--32 г. з 1-га сакавіка членскія ўзносы па новай марачнай сыстэме (з адначасовым водпускам марак) прымаюцца райбанкамі пры заяве у 2-х экзэмплярах наступнага абразцу:

(Форма заявы)

Рабачком (назва)

Саюза Рабочых Жывёлагадоўчых Саўгасаў

У К(О)А Дзяржбанка.

ЗАЯВА (квіт)

Прашу выдаць прад'яўніку гэтага профмарак на суму

руб ........................................

у купюрах, паказаных на адвароце, прыняў на гэту-ж суму

наяўнымі, пералічыў гэтаю-ж суму з бягучага рахунку

№ .................. на суб. бяг. рах. №-3006 ЦК союза РЖС.

Подпіс рабачкому.

Падпіс Дзяржбанка у атрыманьні грошай.

Марак на .................. Руб ..................

Атрымаў ........................................

№-1 застаецц ва установах дзяржбанку, як касавы, ці мемарыяльны ордэр.

№-2 выдаецца рабачкому як квіт.

партыі, саюзу і ўраду і рашэньнях агульнасаўгаскага рабачкому і мабілізацыі прафгрупоргаў на выкананьне гэтых рашэньняў.

3. Рэгулярным склíканьнем нарад групоргаў для інструктаваньня, абмену вопытам і абгаварэньня пытаньняў бягучай работы.

Сходы групоргаў павінны склікацца рабачкомам фэрмы, цэхавым камітэтам у маштабе фэрмы, цэха, не радзей аднаго разу у месяц і агульнасаўгаск. рабачкомам па саўгасу ў цэлым адзін раз у два месяцы.

4. Пэрыядычнай пастаноўкай дакладаў прафгрупоргаў аб рабоце у прафгрупе на пасяджэньнях рабачкому, фэрмы, цэхавага камітэту і агульнасаўгаскага рабачкому.

**Агульна-саўгаскі рабочы камітэт абавязан:**

а) Складаць пэрыядычна для прафгрупоргаў пры правядзеньні важнейшых кампаній (перавыборчая, калдагаворная) памяткі-заданьні, забясьпечваючы жывое інструктаваньне і наступную праверку выкананьня.

б) Запрашаць прафгрупорга для ўдзелу ў вырашэньні пытаньняў, датыкаючыхся рабочых яго групы.

в) Забясьпечваць групоргаў необходнай літаратурай і справачным матар"ялам, а таксама ўсямерна падвышаць іх агульны палітычны і культурны ўзровень шляхам арганізацыі гутарак, гурткоў і г. д.

Адказны рэдактар—ПАДВОЙСКІ
Выдавецтва—Рэспубліканскі к-т саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў

Галоўлітбел № 89. Тыраж 400—Зак. 389. Друкарня М. Ф. П. К.

